## Навінкі ў тЭстах

### Ці ў курсе вы апошніх падзеяў?

**1. З наладжваньнем якіх адносінаў павіншаваў А.Лукашэнка прэзыдэнта ААЭ шэйха Заіда бэн Султана Аль Нахайяна і насьледнага прынца Абу-Дабі шэйха Халіфу бэн Заіда Аль Нахайяна?**
А) Дыпляматычных
Б) Эканамічных
В) Полавых

**2. Дзень якой арганізацыі адзначаецца ў сьвеце 24 кастрычніка?**
А) Аль-Каіда
Б) Хэзбалах
В) Аб'яднаных Нацыяў

**3. Хто праводзіць у Менску акцыю «Пешаход»?**
А) Снайпэр
Б) Аўтааматары
В) ДАІ

**4. У якія гарады беларускія будаўнікі нарэшце правялі магістральны газапровод?**
А) Сургут і Цюмень
Б) Парыж і Бэрлін
В) Столін і Лунінец

**5. Удзельнікаў якой арганізацыі ў Віцебску ўпершыню будуць судзіць за распальваньне нацыянальнай, расавай або рэлігійнай варожасьці?**
А) РНЕ
Б) РПЦ
В) БНФ

**6. На захаваньне чаго распачалі збор сродкаў рагачоўскія камуністы?**
А) Леніна
Б) Маўзалею
В) Маўзалею Леніна

**7. Колькасьць каго за апошнія дзесяць гадоў павялічылася ў Менску ў тры разы?**
А) Міліцыянэраў
Б) Бамжоў
В) Дэпутатаў

**8. Хто пералічыў 2 мільёны 865 тысячаў рублёў (1500 даляраў) на будаўніцтва Нацыянальнай бібліятэкі?**
А) Міністры
Б) Дэпутаты
В) Прэзыдэнт

**9. Якім загінуўшым беларускім вайскоўцам зьбіраюцца ўсталяваць помнік у Гомелі?**
А) Лётчыкам
Б) Танкістам
В) Маракам

**10. У чыю памяць «Малады Фронт» 26 кастрычніка плянуе правесьці шэсьце са сьвечкамі ад Валадаркі да Кастрычніцкай?**
А) Фашысцкіх калябарантаў
Б) Вязьняў Валадаркі
В) Падпольшчыкаў

**11. Хто заявіў пра свой ня ўдзел у вулічнай акцыі апазыцыі прызначанай на 17 лістапада?**
А) А.Лябедзька
Б) А.Лукашэнка
В) Народ

**12. У якім мерапрыемстве на тэрыторыі Літвы прынялі ўдзел беларускія вайскоўцы з 21 па 25 кастрычніка?**
А) Вызваленьні
Б) Акупацыі
В) Вучэньнях

**13. Якая асноўная тэма нарады, праведзенай А.Лукашэнкам 23 кастрычніка?**
А) Бюджэт
Б) Дажынкі
В) Пасяўная

Правільныя адказы: 1-А, 2-В, 3-В, 4-В, 5-А, 6-В, 7-Б, 8-Б, 9-В, 10-В, 11-А, 12-В, 13-А

# Два разы ў аДну варонку

## *Лукашэнка чарговы раз выходзіць сухім з вады*

Падазроная сувязь высьвятляецца паміж унутрыбеларускімі справамі і міжнароднай кан'юнктурай. Варта толькі ўспыхнуць якому сур'ёзнаму скандалу ў палітычным жыцьці Беларусі, як гэтая навіна неўзабаве пераходзіць на другі або трэці плян і ў выніку перастае быць каму-небудзь цікавай. Прычым назіраецца дзіўнае падабенства сцэнараў, паводле якога разьвіваюцца далейшыя падзеі:
а) скандал, які толькі разгараецца, можа здорава папсаваць крыві Аляксандру Рыгоравічу, прадставіўшы яго перад усім сьветам у выглядзе сатрапа і самадура;
б) нечакана на дапамогу Лукашэнку прыходзяць... ісламскія тэрарысты (!), якія выкідваюць такі фінт, што падзеі вакол Беларусі ўяўляюцца нейкай мышынай вазьнёй, ня вартай увагі.
Скандал вакол дэпартацыі замежнага грамадзяніна Барыса Нямцова разам з Хакамадай топ-навіной расейскіх тэлеканалаў пратрымаўся літаральна некалькі гадзінаў, пагражаючы выклікаць чарговае пахаладаньне ў беларуска-расейскіх дачыненьнях. Захоп чачэнскімі тэрарыстамі тэатральнага цэнтру на Дуброўцы ў Маскве цалкам апанаваў тэлеэфір, разбурыўшы ўсе патугі беларускай апазыцыі на эскаляцыю напружанасьці паміж Расеяй і Беларусьсю. Аднак такі падарунак ад ісламістаў беларускі прэзыдэнт атрымлівае ня першы раз. Варта ўзгадаць мінулыя прэзыдэнцкія выбары 9 верасьня. Як толькі Ганчарык 10 верасьня пачаў на кожным вуглу распрагацца пра фальсыфікацыі і парушэньні падчас правядзеньня выбараў і падліку галасоў, як ужо 11-га адмарозкі бэн Ладэна крушаць будынкі Сусьветнага Гандлёвага Цэнтру, адцягваючы ўвагу галоўнага сябра беларускіх дэмакратаў ад падзеяў у далёкай усходнеэўрапейскай краіне.
Выпадковасьць? Наўрад ці. Складаецца ўражаньне,




што беларускія ўлады альбо ведаюць пра надыходзячыя падзеі (у адрозьненьне ад ФБР ці ФСБ, беларускія чэкісты дарма хлеб не жуюць), альбо – што можа стаць сапраўднай сэнсацыяй – беларусы самі выступаюць у ролі заказчыкаў тэрактаў у Маскве і Нью-Ёрку. Пацьвердзіць тую альбо іншую вэрсію пакуль што не магчыма. Аднак можна з пэўнасьцю сказаць, што калі невядомыя скінуць у Сьвіслач мяшок зь Лябедзькам, то ў той сама час дзе-небудзь у Эўропе ісламісты зноў правядуць свой чарговы крывавы тэракт, адсунуўшы Лябедзькаву драму на абочыну мэйнстрыму тэлевізійных навінаў ●

**Тацяна Міткова**




## ЦЭны

### Чытаць дорага

Міністэрства статыстыкі і аналізу разрадзілася чарговымі статыстычнымі зводкамі па эканамічным стане здароўя нашага грамадзтва за студзень-верасень бягучага году. Аказалася, што пацыент не здаровы. Вынікі гэтай крапатлівай працы яшчэ доўга не дадуць заснуць вядучым эканамістам і сацыёлягам нашай краіны.
Аказваецца, у 2002 годзе хутчэй за ўсё даражэлі не прадукты харчаваньня і нават не асноўны складнік бюджэту – сьпіртовыя напоі, а самы, здавалася б, нечаканы тавар – прэса. Згодна той жа самай аналітычнай пісульцы, кошт друкаваных выданьняў узрос аж на 50,2 працэнты. У той час як спажывецкія цэны увогуле – усяго на 24,4 працэнты. Хутчэй за пэрыёдыку даражэлі толькі платныя паслугі насельніцтву (67,9%), якія ўключаюць аплату за транспарт, цяпло, гарачую ваду і г.д. Калі кіравацца аксыёмай рынкавай эканомікі – попыт нараджае прапанову, – мімаволі ўпэўніваесься ў правільнасьці распаўсюджанай сярод пэўных колаў думкі, што беларусы – самая чытаючая (адначасова і самая цеплалюбівая, чыстаплотная, ня супраць пакатацца ў тралейбусе і г.д.) нацыя.

# Крымінальная Расея

Днямі ў Маскве забіты губэрнатар Магаданскай вобласьці Валянцін Цьвяткоў. Хоць забойствы на палітычна-крымінальнай глебе ў суседняй краіне здараюцца ня рэдка, гэты выпадак можа пацягнуць за сабой нечаканыя наступствы. «Справа гонару раскрыць гэтае злачынства» – паведаміў на прэс-канфэрэнцыі міністар унутраных справаў Расеі Барыс Грызлоў і дадаў, што «трэба ачысьціць Магаданскую вобласьць ад крыміналу». Такім чынам, у Расеі насьпявае калі ня новы ўзброены канфлікт, то прынамсі перасяленьне народаў. Магаданскі край яшчэ з царскіх часоў быў месцам *высылкі крымінальных (і ня толькі)* злачынцаў, якія там пасьля адсідкі заставаліся на пасяленьне, чым павялічвалі насельніцтва і лякалізавалі працэнт крыміналу ў далёкаўсходнім рэгіёне (паводле ацэнак экспэртаў ён дасягнуў амаль 70%). «Куды ж цяпер высылаць той крымінальны элемэнт, які падпарадкуецца маскоўскім уладам і ня будзе аказваць супраціву?» – з такім пытаньнем мы зьвярнуліся да выпадковых мінакоў на вул. Маскоўскай і атрымалі *даволі нечаканыя адказы:*
*– Яшчэ далей на поўнач* – на Чукотку, ці Камчатку. (5% апытаных).
– На поўдзень – у яўрэйскую аўтаномную вобласьць, усяроўна там няма ніводнага яўрэя. (5%).
– Куды Макар цялят не ганяў. (5%)
– Расія вялікая краіна – ёсьць куды і сасьлаць, і пасьлаць. (5%)
– Ды ідзіце вы на... (80%) ●

## СТАРЫ ПАРТРЭТ новага правага палітыка



Апошнім часам Аб'яднаная Грамадзянская Партыя Лябедзькі ператварылася ў вядучага ньюсмэйкера краіны. Але на карысьць беларускаму лібэральнаму руху гэткае першынства нешта ня йдзе. Вось і на гэты раз АГП у нешта ўступіла. Як паведаміла Радыё «Свабода», нашыя лібэралы прынялі ўдзел у якасьці назіральнікаў у працы зьезду эўрапейскіх правых партыяў, які нядаўна адбыўся ў Лісабоне. Партыі, частка якіх дагэтуль уваходзіла ў Эўрапейскі дэмакратычны саюз, а частка – у Эўрапейскую народную партыю вырашылі аб'яднаць свае намаганьні пад штандарам апошняй. Пэтлумачым, што Эўрапейская народная партыя, якая аб'ядноўвае хрысьціянска- дэмакратычныя партыі, кансэрватараў ды іншую рэакцыйную публіку Старога Сьвету, мае да лібэралізму такое сама дачыненьне, як сам Лябедзька да марксізму-ленінізму. Чым жа выкліканая раптоўная цікавасьць агэпэшнікаў да правых ідэяў? Адказ на гэтае пытаньне ў банальных «зялёных» – не ў экалягістах, а ў «баксах». Справа ў тым, што міжнародная арганізацыя лібэралаў – Лібэральны Інтэрнацыянал – ня надта жалуе сваіх аднадумцаў з АГП, небеспадстаўна падазраючы іх, відаць, у правым ухіле. Да таго ж парогі Лібінтэрну абіваюць прадстаўнікі Лібэральна-Дэмакратычнай Партыі Гайдукевіча, якія заяўляюць свае эксклюзіўныя правы на лібэральную фішку ў Беларусі. Вось і прыходзіцца аб'яднаным грамадзянам шукаць іншую кармушку. Нагадаем толькі, што на правацэнтрысцкім полі барахтаецца яшчэ Хрысьціянска-Дэмакратычная Партыя Грушавога, якая запраста можа падкурвіць АГП. Таму, калі правы трэнд партыі Лябедзькі будзе захоўвацца, то неўзабаве можна чакаць, што АГП стане сябрам міжнароднай нэанацысцкай арганізацыі «Blood and Honour». Можа там грошай падкінуць? ●

# *Дзяцей – на «бульбу»!*




Сямімільнымі крокамі коціцца па краіне рынкавая эканоміка і яе галоўны прынцып «кожны сам за сябе». Не засталося ў баку і некалі самае дарагое – дзеці. Наватарам у галіне разьвіцьця бартэру выступіў дзіцячы садок №19 у Крычаве, дзе адміністрацыя ўстановы прапанавала бацькам дзяцей прыносіць у садок бульбу: на кожнае дзіця па трыццаць кіло. А вось выхавальнікі і нянькі садка №4, каб назапасіць прадуктаў на зіму, вымушаныя былі два тыдні адпрацаваць на ўборцы бульбы ў калгасе. Але хопіць працаваць па старынцы. Можна пайсьці яшчэ далей і пачаць прыцягваць да нарыхтоўкі харчаваньня саміх дзетак. Замест таго, каб гуляцца ў лялькі ды капацца ў пясочніцах, лепш хай капаюцца ў зямлі, можа хоць бульбіну знойдуць. І сябе пракормяць, і з малых гадоў да працы прывучацца будуць ●

## ПерадзЕл

### Новыя мэцэнаты

У нашай краіне ўсё цячэ, усё мяняецца. Поўным ходам ідзе крымiналізацыя ня толькі палітычных партыяў, але й установаў культуры, якія ўжо не саромеюцца адкрыта праводзіць разборкі. Аднак вынік, як высьветлілася пазьней, не такі ўжо і адмоўны. Днямі Міністэрства культуры і Менгарвыканкам «намецілі шэраг мераў па паляпшэньні супрацоўніцтва», іншымі словамі дамовіліся аб падзеле сфэраў уплыву на сумеснай сходцы з удзелам самых крутых аўтарытэтаў – міністра Леаніда Гулякі і мэра Менску Міхаіла Паўлава. У выніку Мінкульт, як старэйшы пахан, вырашыў скінуць на баланс сталічнага выканкаму непрыбытковыя будынкі, мзда зь якіх ня вартая іх утрыманьня. Сярод іх – Тэатар юнага гледача, Цырк, Дом-музэй зьезду РСДРП, а таксама музвучылішча імя Глінкі. Ясна, што такой сур'ёзнай канторы як міністэрства ўтрыманьне такіх несалідных будынкаў аўтарытэту не надае. Затое больш маладая кроў у выглядзе гарвыканкамаўцаў у стане будзе вытрэсьці з гэтага фуфла штонебудзь вартае. Такая адкрытая зьмена «даху» гаворыць аб дрэнным становішчы культуры і самых сур'ёзных яе ўстановаў, але ў гэтым пераходзе ёсьць свой плюс – у інтэлігенцыі зьявілася надзея, што «новыя мэцэнаты» разьбяруцца з гэтым пытаньнем. Мяркуецца, што буйныя прадпрыемствы возьмуць шэфства над гэтымі ўстановамі, а прадпрыемствы, як вядома, трымаюць яшчэ больш сур'ёзныя людзі, што дае нам права спадзявацца: самыя вялікія аўтарытэты клапоцяцца за культурную бясьпеку краіны.

# Пад знаКам рыб

## Маўчаньне інтэлектуалаў стала знакавым



На днях прайшла міжнародная канфэрэнцыя пад назвай «Інтэлектуалы: спакуса маўчаньня», на якой прысутнічала рыба глыбокага заплыву – знакаміты швайцарскі саветоляг Жорж Ніва, некалькі запрошаных замежных рыб і мясцовыя аматары інтэлектуальнай маўчанкі. Ладзіла гэтую канфэрэнцыю магілёўская арганізацыя «Кола сяброў» і Сьвятлана Алексіевіч, якая ўжо таксама зрабілася на радзіме замежнай госьцяй, бо прыехала з Італіі. Арганізатары ток-шоў задумвалі мерапрыемства, як прысьвечанае выключна палітычнаму маўчаньню інтэлігентаў ва ўмовах «варварскага акупацыйнага антыінтэлектуальнага рэжыму». Але сп. Алексіевіч пралічылася: ня ўсе выступоўцы пагадзіліся з глыбокімі стратэгічнымі плянамі арганізатараў фэсту. Валянцін Акудовіч, напрыклад, прачытаў правакацыйнае эсэ «Флірт з катам па дарозе на шыбеніцу» – так ён зразумеў становішча інтэлектуала ў сучасным спажывецкім грамадзтве, дзе ўсё купляецца і прадаецца, і слова, і маўчаньне. Андрэй Хадановіч у сваіх «Хаўтурах па слову» сказаў калямбураў з нагоды і без нагоды тэмы «маўчаньня баранкаў», «бляяньня баранаў», «маўчаньня як рыбы ў акварыюму». А гісторык Уладзімер Арлоў выступіў з гістарычным, але актуальным анэкдотам пра тое, як заходнія саветолягі не разумелі рэальнасьці краіны, за якую атрымлівалі свае пэнтагонаўскія бабкі.

У савецкага дысыдэнта спыталі:

- На чым вы пісалі?

- На чым давядзецца...

- А, разумею... Вы пісалі на туалетнай паперы... – здагадаўся заходні журналіст.

Дзякуючы канфэрэнцыі, між тым, публіка пазнаёмілася з сучаснымі ўкраінскімі і літоўскімі пісьменьнікамі, а асобна запрошаныя інтэлектуалы працягвалі маўчаць у Мірскім замку ля каміна ●

# Лакі, «краски», ПВХ

## *Вядомы беларускі гурт апусьціўся ў мэркантыльную багну*

**Шоў-бізнэс Беларусі паціху выбіраецца са сваіх прамоклых падгузьнікаў і нарэшце пачынае паказвацца з-пад рушачак ягоны зьвярыны ашчэр зь ціхім пакуль рыкам. Надзея і гонар беларускай сцэны – гурт КРАСКИ – надрукаваў на сваім сайце райдэр з тучай патрабаваньняў да патэнцыйных арганізатараў канцэртаў гэтай банды. Цяпер дырэктарам сельскіх клюбаў і раённых дамоў культуры, дзе часьцей за ўсё выступаюць КРАСКИ, прыйдзецца канкрэтна папарыцца, каб запалучыць сабе выступ гэтых размаляваных фіфак. У райдэры прапісанае ўсё: ад вышыні мікрафонных стоек да колькасьці крэслаў у грымёрках – па 10 у кожнай з дзьвюх абавязковых. У грымёрцы таксама павінны быць 2 (дзьве) попелкі, душ і туалет. А без бутэрбродаў з кілбасой ды сырам канцэрт увогуле можа не адбыцца. Вось як прыкладна будзе выглядаць звычайны канцэрт КРАСОК дзе-небудзь на Пастаўшчыне ●**

**Старэйшы брат**




Перамяшчэньне АРТЫСТА з Масквы ў горад правядзеньня канцэрту і назад ажыцьцяўляецца самалётам (2 месцы – 1 клясай і 5 месцаў – эканам-клясай).




Пры сустрэчы АРТЫСТА на вакзале ці ў аэрапорце неабходны насільшчык зь цялежкай. АРТЫСТУ неабходна прадаставіць: 1 камфартабэльны мікрааўтобус і 1 аўтамабіль прадстаўнічай клясы з 2-ма попелкамі.




У фае гасьцініцы павінны за 3 гадзіны да канцэрту стаяць 2 прадаўцы за 2-ма столікамі і гандляваць сувэнірнай і паліграфічнай прадукцыяй, што прадаставіць АРТЫСТ.




Напрацягу ўсяго часу знаходжаньня АРТЫСТА на канцэртнай пляцоўцы, яму павінныя быць забясьпечаныя: газіраваная і негазіраваная мінэральная вада ў пластыкавых бутэльках аб'ёмам 0.5 літры, гарбата, кава, сокі, фрукты, бутэрброды з кілбасой і сырам.




Катэгарычна выключыць з рацыёну любыя алькагольныя напоі.




Ганарар за выступленьне выплочваецца дырэктару ў памеры 100% перадаплаты ў Маскве за 7 дзён да канцэрта. У выпадку невыкананьня якіх-небудзь пералічаных умоваў, АРТЫСТ у праве адмовіцца ад выступленьня без вяртаньня аплаты и без кампэн-сацыі якіх бы то ні было страт АРГАНІЗАТАРА.

# Неверагодныя прыгоды расейцаў у Менску

















































